**Артур Басак**
пры ўдзеле Аліны Длатоўскай

# БЕЛАРУСКІЯ НЯЧЫСЦІКІ



## ЛЯСНЫЯ

Мінск
“Тэхналогія”
2022

УДК 398.4(=161.3)
ББК 82.3(4Бел)
Б27

Літаратурная апрацоўка
*Аліны Длатоўскай*

**Басак, А.**
Б27 Беларускія нячысцікі : лясныя / Артур Басак пры ўдзеле Аліны Длатоўскай. – Мінск : Тэхналогія, 2022. – 67 с. : іл.

ISBN 978-985-458-332-7.

Перад вамі дзённік дасведчанага нячысціказнаўца, прысвечаны лясным нячысцікам. З яго вы даведаецеся, чым Лясун адрозніваецца ад Гаюна, хто такі Капялюшнік і як прыдбаць новыя боты сярод лесу. Акрамя таго, у гэтым дзённіку можна знайсці парады, як здабыць кавалачак кароны Вужынага Караля ды папараць-кветку, якая дае доступ да таямніц сусвету. На падрабязных ілюстрацыях можна разгледзець спакусніцу Зазоўку, небяспечнага Лядашчіка, таямнічага Туросіка і нават такіх рэдкіх істотаў, як Аднарог, Лагішынскі воўк ды Паднор.

**УДК 398.4(=161.3)**
**ББК 82.3(4Бел)**

**ISBN 978-985-458-332-7**



Прысвячаю гэту кнігу маім дзецям:
дачцэ Палінцы, якая дапамагала мне
падмалёўваць русалак ды аднарогаў,
і сыну Мацвею, які дапамагаў мне
падмалёўваць усіх цмокаў

# Змест

# Уступ

Нататнік гэты належыць мне, Яну Кліксту Лашкевічу, нячысцiказнаўцу, даследніку дзівосаў ды паляўнічаму на прыгоды. Я вандрую па Беларусі, вывучаю містычныя здарэнні, збіраю павер'і ды дапамагаю сялянам даць рады злосным нячысцікам.

Чаму я даследую нячысцікаў? Да гэтага мяне падштурхнула цёмная ды сумная гісторыя майго роду: роду Лашкевічаў з мястэчка Стайкі, што ля Сталовічаў. Роду, у якім я застаўся адзіным нашчадкам. Аднойчы, напэўна, я наважуся перанесці ўспаміны дзяцінства на паперу. Але не цяпер.

У гэтым нататніку я запісваю гісторыі, звязаныя з ляснымі істотамі, цікавыя чуткі ды легенды. Беларускія лясы поўныя загадак ды таямніц. Тут можна сутыкнуцца з Зазоўкай і Цмокам. Загадкавымі агеньчыкамі клічуць за сабой у гушчар небяспечны Туросік або прыязлівы Капялюшнік. На галінах дрэў можна ўбачыць Вужалак, а між магутных дубоў – Гаёвак. З некаторымі ж істотамі, такімі, як Пушчавік, Лядашчык, Касны, лепш ніколі і не сустракацца. У лясах не толькі цікава, але і даволі небяспечна.

Я небяспекі не баюся, мяне абараняе прыродная цікаўнасць. І кавалачак кароны Вужынага Караля.

Але калі раптам вы знойдзеце гэты нататнік дзесьці ў гушчары ці на лясной сцяжыне, прашу паведаміць пра знаходку ў гарадзенскі езуіцкі калегіум.



# Купалле



Самая важная ноч у годзе для кожнага нячысцiказнаўца – Дзень летняга сонцастаяння, Купалле.

На Купалле прырода жыве напоўнiцу. Зёлкi ўваходзяць у моц, набываюць чароўную гаючую сiлу. Дрэвы абмяркоўваюць жыццё лесу ды нават пераходзяць з месца на месца. Схаваныя скарбы выходзяць на паверхню зямлi прасушыцца. Расцвiтае чароўная папараць-кветка, якая спраўджвае жаданнi i дае доступ да таямнiц сусвету.

Нячысцiкi таксама ў гэтую ноч разгульваюцца. Чэрцi ды iншыя шкоднiкi поўзаюць па хлявах у аблiччы гадаў, заязджваюць коней ды адбiраюць малако ў кароў. Ведзьмары ды вядзьмаркi ладзяць скокi на Лысых горах.

Людзi ж паляць вялiкiя вогнiшчы ды збiраюцца каля iх. Водзяць карагоды, скачуць цераз полымя, варожаць на будучыню ды на суджанага, сустракаюць свiтанне, купаюцца ды качаюцца ў купальскай расе, набiраючыся ў прыроды моцы.

Купалле для нячысцiказнаўца – сапраўднае свята. Колькi можна пабачыць за адну гэтую ноч, колькi можна даведацца, запiсаць, замаляваць! Мяне чакае вялiкая праца.



# Туросік

Уночы праз лес не вандруюць, хіба з пільнай патрэбы. Цемра палохае. Але яшчэ страшней – калі вакол мноства розных агеньчыкаў. Не адразу вызначыш, што гэта за святло. Светлячкі? Іскрынкі згаслага вогнішча? Вочы драпежнікаў?

Я ведаю, што гэта могуць быць залатыя рогі Туросіка.

Туросік – дух лесу ў выглядзе тура, старажытнага дзікага быка. Сам ён магутны, вялікі, а рогі ў яго ззяюць золатам. Лясных жыхароў ён любіць, ахоўвае: аленянят ды іншы маладняк адводзіць ад паляўнічых сцежак, знаходзіць ды разбурае пасткі – кляпцы, ашчэпы, ваўкоўні. А людзей Туросік заваблівае ў непраходныя балоты. Вялікі аматар паказацца незнарок паляўнічым.

Моцны, справядлівы, небяспечны. Я раптам усвядоміў, што іду за Туросікам праз лес, не разбіраючы дарогі: і мяне зачаравалі яго залатыя рогі.

У апошні момант веды мае дагрукаліся да свядомасці, я прымусіў сябе заплюшчыць вочы і спыніўся, для надзейнасці ўчапіўшыся пальцамі ў смалістую кару хваіны. Туросік бязгучна знік у гушчары лесу.



# Вужыны Кароль

*Вужыны Цар*

Даследаваць нячысцікаў – не забава, але праца. Часам небяспечная, рызыкоўная. Колькі разоў я бег праз лес нацянькі, спрывільваючы ногі. Колькі разоў трапляў у паляўнічыя пасткі, напорваўся на сухое галлё. Аднойчы мяне параніў Гаюн, іншым разам укусіў Лядашчік.

Штораз уратоўваў, мае раны загойваў цуд. А дакладней цудадзейны амулет: кавалачак кароны Вужынага Караля.

Вужыны Кароль – гаспадар панства змеяў ды яшчарак, захавальнік таемных скарбаў ды ўладар чароўных кляйнотаў. Выглядае ён як велізарны вуж, скура чорная і бліскучая, як зорнае неба. А на галаве – прыродная карона.

Самы малы кавалачак гэтае кароны надзяляе ўласніка неймавернымі здольнасцямі: разумець чужыя думкі ці размаўляць на мове звяроў і раслін, бачыць у цемры ці бегаць з нечалавечай хуткасцю. Кавалачак, што дастаўся мне, – загойвае раны.

Атрымаў я яго так. Увосень, калі дзень ужо кароткі, але ночы яшчэ не дужа халодныя, Вужыны Кароль збірае сваіх падданых ды вядзе ў Змяіны Вырай на зімоўку. Некалькі гадоў запар я штовосень высочваў па лясах іх шэсце – і нарэшце мне пашанцавала.

Проста ў каляіне я разаслаў прыгожы вышываны ручнік, пакланіўся Вужынаму Каралю да самае зямлі ды папрасіў падараваць мне тое, чаго я заслугоўваю. Вуж наблізіўся паволі, з недаверам, і схіліў сваю вялізную галаву да майго твару: зазіраў у вочы. Я вытрымаў ягоны позірк. Вядома ж, што нельга атрымаць падарунак хітрасцю ці падманам, таму я проста стаяў ды чакаў ягонага выраку. Урэшце Вужыны Кароль варухнуў галавою – і невялічкі кавалак з крайняга рога кароны ўпаў на ручнік.

З тых часоў я заўсёды нашу яго з сабою, у кішэні пад сэрцам.



# Лясун

*Лесавік, Лясны Дзед, Лешы*

Аднае ліпеньскае ночы мне пашчасціла неймаверна. У гушчары лесу на Браслаўшчыне я сустрэў надзіва магутнага Лесуна.

За свой век бачыў іх нямала: лесуноў у Беларусі багата, як і лясоў. Ад узлеску да ўзлеску гэты дух клапоціцца пра кожную раслінку, дбае пра кожнага ляснога жыхара, ад кузуркі да зубра. Толькі за лясныя рачулкі ды азёры Лясун не адказны – у іх свае гаспадары, Вадзянікі.

Калі Лясун ідзе праз свае ўладанні, дрэвы вітаюць яго скрыгатам галін ды шамаценнем лістоты. Побач са стромкімі хвоямі ён робіцца высокі-высокі, амаль пад хмары. На прагалінах ледзь узвышаецца над хмызняком. Дзівосная здольнасць для нашага рацыянальнага свету: Лесуны могуць рабіцца і зусім маленькімі, асабліва калі ўладкоўваюцца на адпачынак у дуплах дрэў, на вершалінах ці ў густых зарасніках.

Звычайна Лясун вандруе не адзін. Яго суправаджаюць зграі ваўкоў ды драпежныя птушкі: крумкачы, пугачы, совы. Лесуна, што сустрэў я гэтым разам, таксама суправаджала скавытанне, вуханне ды крумканне. Гукі гэтыя часта палохаюць людзей, якія завіталі ў лес. Але ж не такіх дасведчаных паляўнічых на прыгоды.

Да людзей Лясун ставіцца па-рознаму. Можа напалохаць да смерці, заблытаць, завесці ў гушчар, а можа, наадварот, выратаваць, вывесці з лесу. Я заўсёды на ўзлеску апранаю кашулю навыварат – гэта дзейсны сродак, каб Лясун не вадзіў па гушчары.

І ўсё ж тае ночы я ледзьве не раззлаваў Лесуна. Кожны даследнік нячысцікаў хоць раз у жыцці ды сустрэў яго. Ды мала каму шанцуе натрапіць на яго жытло, дзе Лешачыха гадуе Лесуновых дзяцей. Калі хто набліжаецца да хаты Лесуна, ён можа раз'юшыцца ды ўчыніць сапраўдную буру, ломячы на кавалкі векавыя хвоі ды засцілаючы ашчэпкамі дрэваў шлях да свайго дому.

Я надта заглыбіўся ў сэрца лесу. Калі вакол мяне небяспечна загулі дрэвы, а крумканне ды вуханне драпежна наблізіліся, я асцярожна павярнуў назад, паказваючы гаспадару лесу, што не збіраюся шкодзіць яго сям'і.

# Дзікія людзі



Некалькі дзён таму сустрэў у карчме свайго добрага знаёмага з Ваўкавыска, таксама нячысціказнаўца, ды пачуў ад яго цікавую гісторыю. Ён толькі вярнуўся з далёкай вандроўкі ды распавядаў пра незвычайных істот, якіх сустрэў у іншых краінах. Дык вось, распавёў ён, што ў заморскіх лясах жывуць дзікія людзі. Яны параслі поўсцю ды забыліся на людскую мову: не гавораць, а пішчаць.

Звычайных людзей, якія трапляюцца ім у лесе, яны забіваюць ды з'ядаюць. А яшчэ любяць зарэзаць барана, легчы каля яго ды праз дудачкі смактаць ягоную кроў. Слухаць пра такіх істот, вядома, цікава, але добра, што ў нашых краях іх няма.



# Улíшыца

*Вуйма*

Некалькі тыдняў, як вёску Межа апанавалі нячысцікі. Толькі пачуўшы, што я – нячысціказнавец, сяляне навыперадкі кінуліся распавядаць мне, якія жахі адбываюцца ў вёсцы.

Уначы на могілках нешта вые ды плача. Мерцвякі ўздымаюцца з зямлі ды ходзяць па могілках, галосячы па былым жыцці. Людзі сыходзяць у лес і не вяртаюцца. Хтосьці бачыў страшную жанчыну, якая стаяла на ўзлеску ды клікала да сябе. А некалькі мужчын бачылі, як з лесу выходзіў вялікі дзік з шасцю нагамі.

Як сказалі пра дзіка, дык я адразу здагадаўся, што не процьма нячысцікаў апанавала вёску, а толькі адзін. Улíшыца.

Улішыца падобная да жанчыны, але вочы ў яе чырвоныя, нос пляскаты, рот да вушэй, цела пакрытае каровінай поўсцю і ёсць хвост. Акрамя таго, яна можа хутка перакідвацца ў дзіка з шасцю нагамі, якога і апісвалі мужчыны. У некаторых мясцінах гэтую пачвару называюць яшчэ Вуйма. Улішыца небяспечная для людзей, яна заваблівае іх у сваё логава ў лесе ды катуе да смерці. Часам падымае на могілках нябожчыкаў, размаўляе з імі, плача ды вые.

Улішыца ў нейкім сэнсе – пачвара, створаная людзьмі. На Купалле, калі падпаленая саламяная лялька падае, трэба накінуць на яе пятлю і ўтапіць у рацэ. Часам ляльку выкідвае хвалямі на бераг. Калі яна праляжыць на беразе гэтулькі месяцаў, колькі было людзей на святкаванні, – яна ажыве ды ператворыцца ва Улішыцу.

Пазбавіцца ад Улішыцы не так складана, калі ў вас ёсць знаёмая вядзьмарка. Разам з вяскоўцамі і вядзьмаркай з суседняй вёскі мы скіраваліся ў лес ды высачылі пачвару. Вядзьмарка праклёнам прагнала Улішыцу.

Наступную ноч вёска спала спакойна.



# Гаюн

*Гаёвы дзед*

Вечарэла. Я ішоў праз гай да найбліжэйшай вёскі. Надвор'е стаяла мяккае, ліпеньскае паветра поўнілася пахамі лясных кветак ды ягад. Я не спяшаўся, прыглядаўся да дрэваў ды кустоў, прыслухоўваўся. Усё дыхала спакоем.

Раптам у лесе нешта зараўло, нібы раз'юшаны мядзведзь. Дрэвы скрыгаталі ды стагналі, нешта глуха грукала, быццам па галамнях білі вялізнай доўбняй. Іншы чалавек кінуўся б наўцёкі ад такіх гукаў. Але я ўпэўнена рушыў ім насустрач. Адразу здагадаўся, што нехта раззлаваў Гаюна – мне цікава было даведацца, хто і чым.

Неўзабаве да мяне выбеглі дзеці, збялелыя ды разгубленыя. Перапыняючы адно аднаго, яны расказалі пра жудасную пачвару ў лесе, ад якой трэба як мага хутчэй ратавацца. У іх кошыках былі чарніцы і маліны, палову якіх яны, відаць, растрэслі, уцякаючы.

Малыя кінуліся да вёскі. Я зрабіў выгляд, што крочу за імі, але потым павярнуўся ды заглыбіўся ў гай. Гаюн ужо супакоіўся, толькі ціха стагналі дрэвы. Я прайшоў зусім крыху і наткнуўся на нядаўна згаслае вогнішча. Вось што раззлавала Гаюна!

Гаюн падобны да Лесуна, але гаспадарыць ён у дуброве, чарналессі або ў гаі. Выглядае ён таксама крыху інакш. Нечым падобны да мядзведзя, толькі парослы не поўсцю, а сівым мохам. Гаюн вельмі любіць свой лес і прагоніць кожнага, хто паспрабуе яму нашкодзіць.



# Паднор





Ёсць такія істоты, якіх яшчэ падрабязна не апісаў ніводны нячысціказнавец. Па-першае, пабачыць іх вельмі няпроста. Па-другое, і не вельмі хочацца, бо сустрэча з імі прарочыць хуткую смерць.

Адзін з такіх нячысцікаў – мышыны кароль, Паднор. Ён гаспадарыць не толькі над ляснымі мышамі, але і над палявымі, і над хатнімі. Ён ахоўвае грызуноў ад драпежнікаў ды голаду.

Пра тое, як выглядае Паднор, вядома няшмат. Ад іншых нячысцікаснаўцаў – усіх іх ужо няма на свеце – я чуў такое апісанне: процьма мышэй, сплеценых між сабой хвастамі. Яны ўвесь час варушацца, пішчаць, прынюхваюцца. Наверсе ўзвышаецца мыш, буйнейшая за астатніх. На галаве ў яе прыродная карона з жоўтых костак.

Да людзей Паднор ставіцца абыякава. Кажуць, часам дзеля забавы можа пагутарыць па-чалавечы.

На шчасце, я пакуль не бачыў Паднора на свае вочы. Нават калі гэта ўсё забабоны, нават калі я не памру неўзабаве пасля сустрэчы – правяраць не хочацца. У нашай справе да забабонаў ставяцца з павагай.

# Лясны цмок

У лесе на Меншчыне жыве ў мяне адзін добры знаёмы, можна нават сказаць, сябар. Я да яго нярэдка звяртаюся, каб параіцца ды паслухаць цікавыя гісторыі пра нячысцікаў.

А сустрэліся мы так: я пачуў у лесе ціхія стогны, падобныя да чалавечых. Пайшоў на гук і ўбачыў, што на снезе ляжыць цмок, памерам з добрага вала, і цяжка дыхае. У пярэднюю нагу ўчапілася паляўнічая пастка.

Цмокі бываюць розныя. І паводле месца жыхарства: лясныя, вадзяныя, хатнія. І памерам: хто ростам з котку, а хто – з гару. І паводзінамі: хто шкодзіць, а хто, наадварот, дапамагае.

Гэты не выглядаў небяспечна, і я наважыўся яму дапамагчы. Асцярожна расціснуў пастку і вызваліў цмока. Ён адразу ж перакінуўся ў чалавека – шмат хто з цмокаў гэта ўмее – ды стаў дзякаваць мне за ратаванне. Адна рука ў яго была знявечаная ды скрываўленая. Добра, што з сабой у мяне заўсёды якія-ніякія лекі ды бінт.

З таго часу ён заўсёды рады бачыць мяне ў госці на кубачак лясных зёлак.



# Праява



Трэба быць асцярожным з дрэвамі. Не прыхіляцца. На гэтае правіла я аднойчы забыўся – і ледзь не стала на аднаго нячысціказнаўца менш.

Я быў стомлены доўгай дарогай у спякоту, таму не адразу зразумеў, што адбываецца. Спачатку вырашыў, што зачапіўся за галіну, паспрабаваў вызваліцца. І тады ўжо ўцяміў, што мяне трымае сухая гузаватая рука, а з-пад кары старога клёна на мяне ўважліва нехта глядзіць. Я з цяжкасцю дацягнуўся да запалак у кішэні. Полымя спалохала пачвару, і яна паслабіла хопку. У мяне атрымалася вырвацца.

Так праз сваю няўважлівасць я ледзь не стаў ахвярай лясной Праявы. Яны хапаюць жывёлу ці чалавека, зацягваюць у дрэва і там забіваюць. Чым больш ахвяраў зацягне Праява, тым таўсцейшае ды вышэйшае вырасце дрэва.



# Капялюшнік



Дужа цікавае стварэнне сустрэў я нядаўна на Віцебшчыне. Заўважыў аднаго разу агеньчык, што блукаў між дрэваў. Шмат хто з нячысцікаў заваблівае людзей такім чынам – стала цікава, хто менавіта сустрэўся мне. Я рушыў за агеньчыкам. Ён знікаў ды з’яўляўся зноў, вабячы мяне за сабой.

Нарэшце я здолеў наблізіцца. Я ўбачыў істоту, падобную да невысокага чалавека. Твар быў схаваны вялікім капелюшом. Значыць, Капялюшнік.

Капялюшнікі не варожыя да людзей. Яны могуць выпадкова напалохаць, чалавек можа заблукаць праз іх агеньчыкі. Але яны не жадаюць людзям ліха. Наадварот, людзі ім цікавыя. Аднак Капялюшнікі такія сарамлівыя, што заўсёды бянтэжацца і праз гэта не могуць наблізіцца ды пачаць размову.

Гэты не быў выняткам. Толькі я падышоў ды хацеў спытаць, як ён маецца і што новага ў лесе, – ён згасіў свой агеньчык ды схаваўся ў гушчары.



# Зазоўка



Вандруючы па Беларусі, я часта спыняўся ў адной карчме пад Ракавам. Гаспадарылі там мужык і жонка, маладыя, поўныя моцы ды жыцця.

Але ў тую восень нешта змянілася. Алена, гаспадыня, што якраз насіла трэцяе дзіця, выглядала сумнай ды змарнелай. Васіль, гаспадар, наогул быццам сябе згубіў. Адгукаецца праз раз, адказвае недарэчы, у вачах пустэча.

Я асцярожна пацікавіўся ў Алены, што ў іх здарылася. Яна і распавяла, што некалькі месяцаў таму Васіль заблукаў у лесе. Ды так заблукаў, што яго колькі дзён шукалі ледзь не ўсім мястэчкам. Не знайшлі – праз тыдзень ён сам выйшаў на ўзлесак. З тых часоў паводзіць сябе дзіўна, нібы яго падмянілі.

Алена са слязьмі прасіла мяне дапамагчы. Як мог, супакоіў яе, але больш нічога, на жаль, не мог зрабіць. Васіль сустрэў у лесе Зазоўку. Іх чары не зруйнуеш.

Зазоўкі зbadбліваюць мужчын у гушчар сваёй прыгажосцю ды галізной. Толькі даўгія валасы прыкрываюць самыя далікатныя часткі цела – што, вядома, прываблівае мужчын яшчэ больш. Зазоўкі клічуць мужчын на імя, абяцаюць незвычайныя адчуванні. Хтосьці трапляе ў багну ці ў пастку, бо крочыць за прыгажуняй, не разбіраючы шляху. Хтосьці атрымлівае жаданае.



Толькі пасля любошчаў Зазоўкі мужчына вяртаецца дадому не зусім сабой. Ён ужо не будзе жыць, як раней. З часам зноў сыдзе ў лес на пошукі чароўнай красуні. І болей ужо не вернецца.

Увесну, калі я зноў завітаў у карчму, Алена ўжо гаспадарыла адна.

# Кук

Пад час доўгай дарогі праз лес так хораша бывае разняволіцца ды адпачыць. Сесці на залітай сонцам прагаліне, падыхаць смалістым густым паветрам, паслухаць шэпт дрэваў, гутарку птушак. Выпіць сцюдзёнай вады, што набраў у біклажку з лясной крыніцы, пагартаць свае запісы ды замалёўкі.

Сядзеў я вось так, разамлелы ад спякоты, дапісваў нататку пра Зазоўку ды пачуў, як кукуе зязюля. "Ку-ку, ку-ку", – быццам кліча кагосьці.

Кажуць, сапраўды кліча. Як быў я нячысціказнаўцам-пачаткоўцам, распавядалі мне старэйшыя пра птушынага караля. Быў ён такі вялікі, што адным узмахам крыла мог прагнаць ваўка ці ліса, з першага разу дзюбай забіць змяю ці тхара. Ён лятаў па лесе ды адганяў усіх, хто нападаў на птушынае каралеўства.

Але ж аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо, і ніхто не ведае, што з ім сталася ці куды ён паляцеў. Пастанавілі птушкі паслаць каго-небудзь на ягоныя пошукі ды абралі зязюлю. Так яна дагэтуль і гукае птушынага караля Кука.



# Аднарог

*Адзінарог*

Гэтай істоты я, на жаль, пакуль не сустракаў. Магчыма, і не сустрэну. Кажуць, апошні аднарог у Еўропе быў упаляваны менавіта ў Беларусі.

Рог аднарога, як усім добра вядома, мог лекаваць раны ды хваробы, ратаваць ад атруты. Гэтымі яго ўласцівасцямі вельмі зацікавіўся князь Ю́рай Слуцкі з Алелькавічаў. Княскія паляўнічыя не раз бачылі ў лясах пад Капылём аднарога, але ніяк не маглі застрэліць яго – аднарог надта дзікая, асцярожная ды спрытная істота.

Князь звярнуўся да старога знахара-габрэя, да якога часам таемна наведваўся. Той распавёў, што ўпаляваць аднарога можна толькі прывабіўшы яго спевам юнай нявінніцы. На шчасце ці на бяду, адна з дачок знахара якраз падыходзіла на гэтую ролю.

Аднарога забілі, а спевы знахаравай дачкі завабілі не толькі чароўную істоту, але і самога князя Юр’я.

Аднарога, напэўна, мне пабачыць не давядзецца, а вось рог ягоны я бачыў у адным з радзівілаўскіх маёнткаў. Ці валодае ён дагэтуль чарадзейнымі здольнасцямі, невядома – гаспадары не адказалі мне на гэтае пытанне.



# Верасовы

Малыя дзеці, як вядома, вельмі чуйныя да розных містычных з'яваў. А шматлікія нячысцікі гэтым карыстаюцца, каб як мага болей шкоды ды непрыемнасцяў людзям прынесці. Немаўлят у калысках часта адольваюць Начніцы ды Крыксы. Непакояць іх, палохаюць, казычуць ды замінаюць спаць. Начніцы могуць нават пакарміць дзіця сваімі грудзьмі, у якіх замест малака – атрута. Дык матулі часта звяртаюцца да мяне па раду, як засцерагчы сваіх дзетак ад нячысцікаў. І я ім раю... Іншага нячысціка.

Калі немаўля дрэнна спіць, часта крычыць уночы без бачнай прычыны, трэба звярнуцца з замовай да Верасовага ды папрасіць дапамогі.

Верасовы – гэта такі Лясун, які жыве на верасоўніку. Не тое каб ён ставіўся да людзей значна лепей за іншых лясных гаспадароў, але Крыкс ды Начніц ён і сам не любіць. Калі хораша папрасіць, дык ён не будзе іх пускаць да вашае хаты.



# Лядашчік

*Псуцень, Шэўрадзь*

У вёсцы Камянюкі адна за адной пачалі вар'яцець жанчыны. Адна бегае на карачках ды брэша, як сабака, другая віламі быццам чарцей забівае, трэцяя дык наогул немаўля ў калодзеж кінула. Вяскоўцы ўжо чаго толькі не рабілі: і зёлкамі іх выпойвалі, і чацвярговай соллю абносілі, і бабка-шаптуха замовы свае чытала – нічога не памагло. Тады і папрасілі маёй дапамогі.

У мяне было некалькі варыянтаў, хто мог нарабіць такой шкоды, таму я адразу паспрабаваў пагутарыць з хворымі жанчынамі. Я мусіў ведаць, што незвычайнае яны нядаўна бачылі ці чулі. Размаўляць было цяжка, жанчыны то крычалі, падхопліваліся і лезлі да мяне біцца, то сядзелі ды глядзелі перад сабою невідушчымі вачыма. І толькі адна – тая, што з віламі, – усё мармытала пра нейкае чырвонае вока. Спачатку я не звярнуў увагі. Думаў: у тых чарцей, што ёй мрояцца, вочы чырвоныя. А як яна ўдакладніла, што вока з лесу глядзіць, дык я ўсё і зразумеў. Высветлілася да таго ж, што астатнія жанчыны таксама нядаўна былі ў лесе – яны разам хадзілі ў грыбы.

Хадзілі ды сустрэлі Лядашчіка. Лядашчік, або Псуцень, – калматая пачвара з бруднай рудой поўсцю ды адным вокам, якое ззяе чырванню. Хто ў гэтае вока зірне – страціць розум. Лядашчік часцей зводзіць з глузду менавіта жанчын. Дужа іх не любіць, бо яны нараджаюць дзяцей ды так працягваюць людскі род.

Я высачыў пачвару ў лесе, злавіў яе ды спаліў. Шкада толькі, розуму гэта жанчынам не верне.



# Камяні-краўцы, камяні-шаўцы



Высочваў я Лядашчіка ды неспадзявана ўлез у такую багну, што згубіў свае любімыя боты, якім зносу не было. На шчасце, адбылося гэта ўлетку, але хадзіць басанож па лесе – прыемнага мала.

Добра, што неўзабаве мне трапіўся камень-кравец. Выглядаў ён як звычайны вялізны парослы мохам валун. Тутэйшыя людзі казалі мне, што нехта або нешта жыве ў гэтым валуне і шые цудоўны абутак за грошы. Дарэчы, з'ява гэта звычайная для Беларусі, я ведаю шмат такіх камянёў у розных мясцінах. Павітаўшыся, я замовіў новыя боты. Акуратна прыклаў да валуна ступак, каб загадкавы кравец-шавец не памыліўся з памерам, ды паклаў на камень некалькі срэбных манет, а сам жа сеў побач чакаць. Па нейкім часе ў валуне адчынілася невялічкая адтулінаакенца, адтуль павольна выпаўзла нешта падобнае да чалавечай рукі, і манеты зніклі.

Дагэтуль няма аднаго меркавання пра тое, хто ж жыве ў такіх камянях ды шые за грошы вопратку ды абутак. Ці то Чорт, ці то Цмок, ці то яшчэ які нячысцік.

Толькі я паспеў асвяжыцца ў лясной рачулцы ды паабедаць на яе беразе, як мае новыя боты, яшчэ зручнейшыя і надзейнейшыя за старыя, ужо былі гатовыя.

Я падзякаваў таемнаму майстру ды выправіўся далей паляваць на нячысціка.

# Лесавая

*Лешачыха*

Вёска Сульжыцы стаіць блізка да лесу – толькі поле невялічкае перайсці. Калі быў там, заўважыў, што адна жанчына з ранку да вечара стаіць ля плота і глядзіць у лес. У хату сыходзіць толькі паесці. Сад і гарод занядбаныя, дый сама яна стомленая, змарнелая.

Я спачатку пацікавіўся ў вяскоўцаў, што з гэтай жанчынай здарылася. Мне расказалі, што ейны сын год ці два таму сышоў у лес і не вярнуўся. Яно і не дзіва, кажуць. Ён заўсёды быў дзіклівы, злосны. Працаваць не любіў, адпачываць таксама – ні з кім не сябраваў, у вясковых забавах не ўдзельнічаў. Затое з лесу прыносіў поўныя кашы ягад, грыбоў, арэхаў.

Тады я намерыўся пагаварыць з самой жанчынай. Далікатна распытаў яе пра сынава дзяцінства – ці заўсёды ён так дзіўна паводзіў сябе, з чаго ўсё пачалося. Спачатку яна адказвала неахвотна, а потым, відаць, падумаўшы, што я магу ёй памагчы вярнуць сына, распавяла: малым ён зусім інакшы быў, вясёлы, ласкавы, да людзей цікаўны. Але ў адну ноч яго як падмянілі.

Мне шкада было гэтую жанчыну, аднак мусіў сказаць ёй праўду: сына вярнуць нельга. Страціла яна яго даўно, яшчэ ў дзяцінстве – у тую самую ноч – і ўвесь гэты час выхоўвала дзіцёнка Лесавой.

Лесавая, Лешачыха – гэта жонка Лесуна. У лесе яе сустрэнеш рэдка, звычайна яна ў гушчары даглядае жытло ды гадуе дзяцей. Часам яна выходзіць у вёскі ды падмяняе людскіх дзяцей на сваіх, крыклівых ды непаслухмяных. Такія дзеці заўсёды ўцякаюць потым у лес ды робяцца Лесунамі.

Я ўсё гэта патлумачыў, і жанчына горка заплакала. Гэта былі адначасова слёзы журбы і палёгкі.



# Дабрахот

*Дабрахочы, Дабрахожы*

Дабрахот – вельмі загадкавая істота. Часцей за ўсё ён жыве ў лесе, радзей – у полі. Адпаведна, мае выгляд Лесуна або Палевіка.

Калі ж чалавек пабудуе дом там, дзе гаспадарыць Дабрахот, абжыве гэтае месца, тады істота набывае выгляд Хатніка або Хлеўніка.

Да людзей Дабрахоты ставяцца па-рознаму, у залежнасці ад паводзін саміх людзей. Я часцей сустракаў Дабрахотаў прыязных. Дабрахоты-Лесуны часта ратуюць тых, хто заблукаў у лесе. Дабрахот-Хатнік заўсёды будзе спрыяць і дапамагаць рупліваму гаспадару.

Дабрахоты вельмі прывязаныя да свайго месца. Калі чалавек непаважліва паводзіць сябе ў лесе ці нядбайны гаспадар, не даглядае абжытае месца, – Дабрахот можа раззлавацца ды сувора пакараць, напрыклад спаліць хату з усім дабром.



# Ка́сны



У гэты лес мяне завабілі вусцішныя аповеды вяскоўцаў пра абяскроўленыя целы людзей, якія раз-пораз знаходзілі ў хмызняках ля балотаў. Адны казалі, што лютуе нейкі драпежнік, іншыя вінавацілі нячысцікаў. Я схіляўся да другога меркавання, і цела апошняга знявечанага небаракі пацвердзіла мае здагадкі.

Яны высмакталі ўсё, да апошняй кроплі крыві. На белай сухой скуры, падобнай да паперы, добра былі відаць укусы – з паўтузіна ці нават болей. Не, гэта не драпежнік. Гэта Ка́сны.



Касны заўсёды палююць гуртам. Яны нападаюць знянацку ды прысмоктваюцца, нібы п’яўкі. Чым болей ахвяра супраціўляецца, тым мацней упіваюцца ў цела Касны. Злосць іх ап’яняе. Яны суцішаюцца, толькі давёўшы чалавека да смерці.

Хоць Касны і жывуць у лясах – звычайна якраз недалёка ад балотаў, але не падпарадкоўваюцца Лесуну або іншым ліхім буйным нячысцікам. Нават Кадук і чэрці не маюць над імі ўлады.

Змагацца з Каснамі аднаму – дарэмная справа. Іх надта шмат. Але, як і большасць нячысцікаў, Касны баяцца полымя.

Пацвердзіўшы свае здагадкі і замаляваўшы некалькі асобінаў у свой дзённік, я распавёў вяскоўцам, дзе знайсці Каснаў і як іх адагнаць ад вёскі як мага далей.

# Вужа́лка

*Змяёўна*

Калі ісці праз лес ціха і асцярожна, ледзь кранаючы траву ды галлё – як умеюць хадзіць паляўнічыя на дзівосы, ды ўважліва прыглядацца, можна заўважыць на старым раскідзістым дрэве дзяўчыну. Яна сядзіць, вычэсваючы залатым грэбенем даўгія валасы, і гайдае ў паветры змяіным хвастом, які ў яе замест ног.

Гэта Вужа́лка. Вужалкі – дочкі Вужынага Караля. Яны не носяць адзення, але вельмі любяць гожыя каралі ды бранзалеты. Калі чалавек знойдзе ўпрыгожанне, згубленае Вужалкай, яму пашчасціць у жыцці, а яшчэ ён можа не баяцца змяіных укусаў.

Вужалкі не варожыя людзям, але вакол іх заўсёды шмат змей – так Вужыны Кароль ахоўвае сваіх дачок. Крыўдзіць Вужалку не варта, бо крыўдніка чакае праклён ды розныя няшчасці.

Вужалкі вельмі палахлівыя. Заўважыўшы падарожніка, Вужалка саскочыць з дрэва, перакінецца ў невялічкую змейку і стане непрыкметнай сярод іншых паўзуноў.



# Цмок Вяль

Гэтую гісторыю пачуў я надоечы ў карчме ад знаёмага нячысцiказнаўца. І занатаваў яе як добры прыклад таго, што часам людзі могуць даць рады нячысцікам і без нашай дапамогі і падтрымкі.

У лесе ля вёскі Валэйкішкі, недалёка ад Варнянаў ды Астраўца, ляжыць ля дарогі вялікі валун. Побач з тым валуном жыў калісьці адзін з самых вядомых у Беларусі лясных цмокаў – цмок Вяль.

Цмок гэты не даваў вяскоўцам спакойна жыць: краў гавяду, палохаў дзяцей, перакідваў на дарогу валун, замінаючы праезду. Ні вілы ды косы, ні паходні ды вогнішчы яго не палохалі, толькі злавалі.

Нарэшце адзін вясковец прыдумаў, як цмока перамагчы. Ён зарэзаў барана, злупіў скуру, заліў яе гарачай смалою ды паставіў каля валуна. Вяль заўважыў таго барана ды праглынуў. Гарачая смала заліла цмоку глотку, і ён ногі выпруціў.



# Стрыга

Не толькі Касны з лясных жыхароў ласыя да чалавечай крыві. Стрыга – крывасмок яшчэ больш люты, бо ахвярамі яна абірае малых дзяцей. Уначы яна савой-сіпухай прылятае з лесу ў вясковыя хаты ды прысмоктваецца да безабаронных немаўлят.

Паводле маіх звестак, ад Стрыгі не ратуюць нават святая вада і лялькі-абярэгі – яны толькі мацней злуюць Стрыгу. Раз’ятраная, яна можа шматаць дзіця за ногі, біць па галаве і нават моцна знявечыць яго.

У некаторых вёсках лічыцца, што, каб засцерагчыся ад Стрыгі, трэба паспець памыць дзіця і выліць ваду да заходу сонца. Але ж мае назіранні, на жаль, не пацвярджаюць дзейснасць гэтага сродку.



# Гаёўка



Гэтай зімою некалькі паляўнічых папрасілі ў мяне дапамогі. Яны знайшлі свайго сябра сярод гаю, моцна збітага, з пераламанымі косткамі. Я мала чым мог дапамагчы, але разам мы дацягнулі яго да бліжэйшай вёскі, дзе, на шчасце, жыла знахарка.

Калі паляўнічы крыху ачуняў, ён распавёў, што выпадкова падстрэліў дзівосную дзяўчыну. Пераблытаў з жывёлай, бо ўсё ейнае цела пакрывала снежна-белая мяккая поўсць. Гэта была Гаёўка, Гаюнова ўнучка. Яна была вельмі прыгожая: з русымі валасамі, маладым гожым тварыкам – і з плямай крыві на белай поўсці. Паляўнічы кінуўся бегчы, ды ад раз'юшанага Гаюна не ўцячэш...

Гаёўкі вельмі пяшчотныя ды ўважлівыя да ўсіх жыхароў лесу. Усе жывёлы – ад дужага лася да маленькае птушачкі – звяртаюцца да Гаёвак па дапамогу, калі захварэюць ці параняцца.

Гаёўкі даволі палахлівыя, але разам з тым цікаўныя. Вось адна і трапілася на вочы паляўнічаму. А крыўдзіць Гаёўку вельмі небяспечна. Гаюн сваёй доўбняй усе косткі можа пераламаць.



# Алень Святога Губерта



Некалькі тыдняў таму ў Гарадзенскай пушчы я сустрэў істоту, якая пахіснула маю ўпэўненасць у сваёй кваліфікацыі нячысціказнаўца. Я ніколі не бачыў такіх раней і не чуў пра іх ад знаёмых. На першы погляд гэта звычайны алень. Толькі між рагоў быў ці то крыж, ці то дрэва, падобнае да крыжа.

Я пачаў шукаць інфармацыю ў кнігах. Ды сустрэў адразу некалькі легендаў. Адна з іх – з Беларусі – пра тое, як Пане Каханку каля Нясвіжа пад час палявання сустрэў аленя з дрэвам на галаве. Другая – з Бельгіі – пра біскупа Губерта Льежскага, які заблукаў у лесе. Выратаваў святара алень з бліскучым крыжам над галавою, паказаўшы выратавальную сцежку. Яго так і назвалі – Алень Святога Губерта.

Не ведаю, ці адну і тую самую загадкавую істоту бачылі мы з князем Пане Каханку і біскупам Губертам, але ў сваім дзённіку я занатаваў яе найменне ў адпаведнасці з бельгійскай легендай.



# Камаедзіца

Убачыў я неяк увесну ў лесе ля Бягомля жанчын з місамі, поўнымі кашы. Ішлі яны ціха, асцярожна, не гаварылі між сабой. Я пастанавіў не распытваць, куды яны ідуць, а рушыў за імі назіркам.

Неўзабаве яны спыніліся ля велізарнага берлагу, паставілі місы на падталы снег, пакланіліся ды павярнулі назад. Тады я і ўцяміў, што жанчыны гэтыя прынеслі пачастункі мядзведзю ў гонар Камаедзіцы.

Камаедзіца – свята, звязанае з сустрэчай вясны ды прысвечанае мядзведзю, які прачынаецца ад зімовай спячкі. У гэты дзень людзі звычайна арганізуюць святочнае шэсце, імітуюць звычкі жывёлы, гатуюць асаблівы абед, які ўлучае сушаны рэпнік, аўсяны кісель ды гарохавую кашу. Частку кашы нясуць у лес, на пачастунак мядзведзю.

Найменне свята, магчыма, таксама звязанае з гэтай кашай, бо яна, як вядома, зліпаецца ў камы. “Камы есці” – “Камаедзіца”. Але ж я сустракаў і іншыя гіпотэзы. Напрыклад, што “кам” – старажытны назоў гаспадара. А мядзведзь, вядома, гаспадар лесу. Або Кам – гэта імя караля мядзведзяў, самага вялікага і дужага.

З берлагу пачуўся сонны рык, і я паспяшаўся прэч, каб не злаваць ляснога гаспадара.



# Волат, Валатоўна



Лямант стаяў на ўвесь лес каля вёскі Воўкавічы, што паміж Талачыном і Воршай. Хлопцы, пакідаўшы рыдлёўкі, штомоцы беглі з парослага хмызняком узгорка. Я схаваўся ў цені дрэваў, і яны імкліва прабеглі паўз мяне. Калі іхныя крыкі сціхлі ў далечы, я выправіўся даследаваць месца, дзе працавалі капачы. Некалькі хвілін пільнага вывучэння хапіла, каб зразумець, што гэта – валатоўка. Курган, у якім вечным сном спіць Волат.



Волаты ды Валатоўны – асілкі, што жылі на беларускай зямлі ў даўнія-прадаўнія часы. Відаць, хлопцы хацелі раскапаць валатоўку, спадзеючыся знайсці старажытныя скарбы. Але чаму яны гэтак панічна ўцякалі? Агледзеўшы курган, я не знайшоў нічога, што магло б іх напалохаць.

Толькі назаўтра ў карчме я пачуў ад вяскоўцаў, што юных шукальнікаў скарбаў напужаў прывід старажытнага Волата.

# Пушчавік

Сёння яшчэ раз пераканаўся, што нячысцiказнавец павінен быць у добрай фізічнай форме.

Вось мая парада тым, каму аднойчы давядзецца ўцякаць ад Пушчавіка: трэба бегчы ўлукаткі, пятляць, рабіць крутыя павароты і як мага хутчэй пакідаць пушчу – за яе межы Пушчавік ступіць не наважыцца.

Пушчавік уладарыць у некранутай частцы лесу, так званай “пушчы-дрымушчы”. Ростам ён вышэйшы за самае высокае дрэва ў сваіх уладаннях, увесь зарослы доўгім мохам.

Людзі для яго – ворагі, бо яны высякаюць лясы. Ён не шкадуе нікога: ні дзяцей, ні жанчын, ні нават свойскай жывёлы, якая служыць чалавеку. На шчасце, праз свой рост Пушчавік непаваротны, няўклюдны і дрэнна бачыць, што адбываецца ў яго пад нагамі.

Сустрэць Пушчавіка няпроста. Ён жыве ў самым сэрцы пушчы, атачаным непраходным лесам ды балотамі, якія не замярзаюць нават у самыя суворыя зімы.

Аднак жа калі камусьці пашчасціць так, як мне, – памятайце: уцякаць трэба, бегучы ўлукаткі.



# Лагішынскі воўк



Добра, калі інфармацыю пра невядомую істоту можна знайсці ў легендах, хай нават і іншых краёў – як атрымалася з Аленем Святога Губерта. Але ж бывае і такое, што звестак пра нячысціка са свечкаю не знайсці.

У лесе на Піншчыне з гушчара на мяне выскачыла дзіўная істота. Нібыта воўк, а ногі – ласіныя. На шчасце, ён не стаў нападаць, хоць шчэрыў вострыя іклы ды парыкваў. Я асцярожна абышоў яго, намагаючыся адначасова разгледзець ды запомніць як мага болей дэталяў, каб потым замаляваць.



Дабраўшыся да цывілізацыі, я кінуўся шукаць звесткі, запісы, легенды пра ваўка з ласінымі нагамі. І не знайшоў нічога акрамя герба невялічкага мястэчка на Піншчыне, Лагішына. На сінім полі – воўк з ласінымі нагамі.

Я распытваў жыхароў мястэчка пра загадкавую істоту, але ніхто так і не здолеў задаволіць маю цікаўнасць. Усё, што я высветліў: некаторыя таксама бачылі ў лесе гэтае дзіўнае стварэнне.

Чарговая белая пляма: ці сустракаюцца такія ваўкі яшчэ дзе-небудзь, ці гэта ўнікальная з’ява?

# Купальскі Дзядок

---

Натхнёны поспехам з каронай Вужынага Караля, я пачаў шукаць яшчэ адзін чароўны прадмет. А дакладней расліну – кветку папараці. Знайсці яе самастойна вельмі цяжка, амаль немагчыма. Цвіце яна толькі на Купалле і зусім нядоўга. Акрамя таго, большасць кветак рупліва збірае Купальскі Дзядок.

Летась я быў вельмі блізка да сваёй мэты, але мне крыху не хапіла часу. Заглыбіўся ў лес так, што не чуваць было ані гуку з бліжэйшай вёскі. Неўзабаве ўбачыў яскравы агеньчык. Гэта жарам гарэў кошык Купальскага Дзядка, у які ён збіраў папараць-кветкі. Я наблізіўся да яго ды, паважліва нахіліўшыся, разаслаў белы абрус. Дзядок, у адрозненне ад Вужынага Караля, нават не зірнуў на мяне, кінуў адну кветачку з кошыка ды пайшоў сабе далей.

Але толькі я працягнуў да кветкі руку, як лес ажыў. Я чуў, адчуваў, што з-за дрэваў, з-пад карэння, зверху, знізу – адусюль за мной сочаць пільныя вочы нячысцікаў. Я ведаў, што кветку трэба схаваць пад скуру, каб ніхто не змог яе адабраць. Не вагаючыся, разрэзаў далонь правай рукі сцізорыкам, схапіў кветку і... яна згасла. Не паспеў.

Спадзяюся, налета мне пашанцуе болей.



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Басак** Артур
пры ўдзеле Аліны Длатоўскай

**Беларускія нячысцікі**
Лясныя

Каардынатарка праекта *Валянціна Андрэева*
Рэдактар *Зьміцер Санько*
Шыхтаванне *Уладзя Губіч*
Карэктарка *Марыя Журавель*

Падпісана да друку 22.09.22. Фармат 60×84 $^1/_8$. Папера крэйдаваная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 7,91. Ул.-выд. арк. 6,0.
Наклад 700 паас. Замова 684.

Навукова-вытворчы кааператыў «Тэхналогія».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/379 ад 01.07.2014.
Вул. Ляўкова, 19, оф. 2н, 220007, Мінск.
e-mail: technalohija@gmail.com. www.tn.by.

12+

Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Джы энд Дзі».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/36 ад 13.01.2014.
Вул. Бурдзейнага, 37-191, 220136, Мінск.

ISBN 978-985-458-332-7

